16+



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

1 • 2020
студзень

Сынок,
колькі табе гаварыць?
Я цябе нарадзіла,
а не спампавала
з інтэрнэту...

Віталь ДУДАРЭНКА.

# Калі лепш рабіць рамонт?

**Андрэй ПЯТРЭНКА**

*Гумарэска*

Была зіма. Моцны мароз. Добры гаспадар і сабаку з хаты не выганіць у такое надвор'е. А ўжо свой нос высунуць тым больш боязна!

Нечакана да мяне завітаў сусед па лесвічнай пляцоўцы Сцёпа і папрасіў перфаратар:

— Рамонт кухні надумаў зрабіць. Трэба старую плітку са сцен зняць.

— Спадзяюся, ты гэта не сёння будзеш рабіць? Усё ж нядзеля: выхадны дзень, — сказаў я.

— Як ты мог пра мяне такое падумаць? Адпачывай на здароўе, — запэўніў мяне сусед.

Калі перфаратар апынуўся ў руках Сцёпы, яго нібы ветрам здзьмула. А ўжо праз дзесяць хвілін пачуўся характэрны гук... Я пачакаў гадзіну і пайшоў да суседа.

— Ты ж абяцаў!

— Хіба я перашкаджаю? Я ж ціхенька, — пачаў апраўдвацца Сцёпа. — І ўвогуле, да сямі гадзін вечара дазваляецца!

— А што мне рабіць?

— Сходзі на прагулку. Сядзіш увесь час дома як пень!

Выбіраць не даводзілася: нягледзячы на моцны мароз, выправіўся шпацыраваць па вуліцах горада. Вярнуўся дадому якраз у сем гадзін вечара. Неўзабаве з'явіўся і Сцёпка.

— Ну што, надыхаўся свежым паветрам? — з парога прабасіў сусед. — Ты мне яшчэ «дзякуй» павінен сказаць. Каб не я, кіс бы тут, у кватэры, — ён паляпаў мяне па плячы і працягнуў інструмент. — Вялікі дзякуй!

Наступныя выхадныя я планаваў адпачыць дома. Тым больш, сіноптыкі прагназавалі неспрыяльнае надвор'е. Але ўжо з самай раніцы ў суботу да мяне завітаў сусед Грышка, што жыў паверхам вышэй, і пачаў з галоўнага:

— Новы лінолеум вырашыў пакласці. Можа, у цябе ёсць шпаталь? А то, ведаеш, без яго ніяк.

— Ёсць, — шчыра прызнаўся я. І тут жа схамянуўся. — А ты не будзеш перашкаджаць адпачываць? Сёння ж выхадны дзень.

— Што ты! — ажно замахаў ён рукамі. — Хіба я магу лепшаму суседу псаваць настрой?

Атрымаўшы інструмент, задаволены Грышка памчаў да сябе. Праз паўгадзіны па маёй столі пачалі хадзіць маманты. Туды-сюды. Натоўпам. Пайшоў да Грышкі.

— Хіба я перашкаджаю? — здзівіўся той. — Я ж ціхенька. І ўвогуле, гэта дробязь. Ты лепш сходзі на вуліцу, праветрыся, а калі вернешся, маманты сыдуць. Ну, ці вымруць.

Памятаючы пра папярэджанні сіноптыкаў, цёпла апрануўся і выйшаў на вуліцу. Дзьмуў моцны вецер... Праз гадзіну халодны, нібы лядзяш, вярнуўся ў кватэру і адразу паставіў на пліту чайнік. Тут якраз падаспеў і Грышка.

— Ну, што я казаў? Прагуляўся, адпачыў. А то ад гэтага кватэрнага паветра яшчэ захварэеш! — бадзёра прагаварыў сусед і ўручыў мне заляпаны шпаталь.

Надышлі трэція выхадныя. Ніхто да мяне не заходзіў. Але ў гадзіну дня пачуў, як за сцяной залы загудзеў электрадрыль. Вырашыў высветліць, чым займаецца сусед Яшка. Менавіта з яго кватэры даносіліся непрыемныя гукі.

— Гэта я новую кніжную паліцу да сцяны прымацоўваю, — патлумачыў ён. — Яшчэ карціны ёсць. Ты не хвалюйся, праз гадзіну скончу.

Але гук электрадрыля не сціх ні праз гадзіну, ні праз дзве. Толькі вечарам настала доўгачаканая цішыня.

«Няўжо няма іншага часу для рамонту? — абурана падумаў я. — Напрыклад, летам. Чаму гэта абавязкова рабіць зімой? Вось настане гарачыня, я ім пакажу!»

...Надышло лета. Я набыў неабходныя будматэрыялы і ўзяўся за рамонт. Электраінструменты не сціхалі ў кватэры тыдзень. Дзіўна! Ніхто з суседзяў не скардзіўся.

Выйшаў на лесвічную пляцоўку і зірнуў на дзверы Сцёпкавай кватэры. Націснуў на званок — цішыня. Падняўся на паверх вышэй да Грышкі, пазваніў. Таксама ніхто не адказаў.

Вярнуўся да сябе ў кватэру, узяў электрадрыль і пачаў настойліва свідраваць сцяну, за якой жыў Яшка. Зноў цішыня!

— Яны адпачываць паехалі, — паведаміла бабка Маня, якая сядзела на лаўцы каля пад'езда і пра ўсіх жыхароў усё ведала. — І Сцёпка, і Грышка, і Яшка. Лета ж! Чаго дзівіцца?

«Вось дурань! — падумаў пра сябе. — Усе летам адпачываюць, адзін я пацею: за рамонт узяўся!»

Цяпер інструменты зімой нікому не даю. Займаюся рамонтам кватэры сам. А летам хаджу ў грыбы і загараю. Словам, адпачываю, як усе разумныя людзі.

*г. Рэчыца.*




## Упарты і згаворлівы

***Гомельская вобласць.*** Калі пагадзіцца з тым, што факты — прадмет упарты, дык тады атрымліваецца, што статыстыка — згаворлівы. Гэтыя словы яскрава пацвярджае дзейнасць ААТ «О» на працягу апошніх трох гадоў. Доля прыпісак у аптовым абароце і даходнай частцы таварыства пастаянна павялічвалася. У асобныя месяцы яна дасягала 56 працэнтаў у выручцы ад рэалізацыі тавараў і больш за 12 працэнтаў у валавых даходах. Тым часам паміж таварыствам і яго контрагентамі ажыццяўляліся фіктыўныя здзелкі, якія ў бухгалтарскім уліку адлюстроўваліся як паступленні новых тавараў...

Аднак згаварыцца з кантралёрамі не атрымалася. У адносінах першага намесніка дырэктара таварыства ўзбуджана крымінальная справа за службовы падлог.




## Ні пінжака, ні штаноў

***Аршанскі раён.*** Французскі пісьменнік Трыстан Бернар неяк заўважыў, што банкруцтва — гэта законная працэдура, падчас якой вы перакладваеце грошы ў кішэню штаноў, а пінжак аддаяце крэдыторам. Але дырэктар аднаго ТДА, якое доўгі час не магло плаціць даўгі, мінуў яе. Зрабіў выгляд, што запазычанасці не існуе і ліквідаваў фірму ў 2014 годзе. У выніку тыя крэдыторы, перад якімі арганізацыя мела запазычанасць, у тым ліку дзяржаўнае прадпрыемства і Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, не атрымалі ўсяго звыш 55 тысяч рублёў.

Зараз аднаго пінжака для разліку будзе мала. Справай зацікавіліся рэвізоры.



## Пацягнулі і ваўка

***Кобрын.*** Службовыя асобы камерцыйнага прадпрыемства па вырабе металічных канструкцый, пачынаючы з кастрычніка 2013 года і па студзень 2014 года ўносілі ілжывую інфармацыю ў падатковыя дэкларацыі.



**Віктар РЭЧЫЦ**

## НА ПАЎСТАЎКІ

Ураніі ў калідоры
Установы
Сустрэўся Панцялееў
З Івановым.
— Ты што, працуеш тут? —
Спытаўся госць.
— Сягоння пачынаю
Службу несці.
— А што ў руках?
— Ды крэсла. На яго
Планую ў кабінеце
Зараз сесці.
— На гэты недаломак?
Ды яму
На сметнік самы час,
Далей ад люду.
— Парэзаў крэсла
Напалам таму,
Што працаваць тут
На паўстаўкі буду.

*г. Івацэвічы.*



І не даплацілі ў бюджэт больш за 90 тысяч рублёў.




Аднак цягнуў воўк, пацягнулі і ваўка. Фінансавыя міліцыянеры злавілі кіраўніка прадпрыемства і той прызнаў віну, але нявыплачаныя падаткі не вярнуў. Суд прызначыў яму «хімію» і забараніў займаць пэўныя пасады на тры гады, а таксама аштрафаваў на 350 базавых велічынь. Як тут не завыць?..

## Колькі каштуе?

***Шклоўскі раён.*** «Что нам стоит дом построить?» — спявалася ў вядомай песні. У выпадку выканання рамонтна-будаўнічых работ на аб'ектах дзяржаўных устаноў г. Шклова і Шклоўскага раёна — нямала. Напрыклад, больш чым 840 тысяч бюджэтных сродкаў, што выкарысталі не па прызначэнні. Ці пераплату ў 120 тысяч рублёў за рамонт 22 збудаванняў...

Надзейная брыгада засталася толькі ў старой песні. Цяпер жа матэрыялам праверкі будзе дадзена прававая ацэнка.




*Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.*

## Думкі ўголас

- Калі цябе праследуе поспех, уцякаць не варта.
- Там, дзе вялікага розуму не трэба, неабходна маленькая хітрасць.
- Пра што гаварыць з чалавекам, якога можна зразумець з паўслова?
- Каб не быць у сваёй талерцы, іншаму хапае адной шклянкі.



- Поспех — гэта калі табе зайздросцяць не толькі дурні, але і разумныя.
- Каб іншы навучыўся трымаць язык за зубамі, трэба, каб яго іх пазбавілі.
- Рэцэпты шчасця ў паліклініках не выдаюць.
- След, пакінуты табой у жыцці, не залежыць ад памеру абутку.



- Шлюб па разліку нярэдка заканчваецца разлікамі па аліментах.
- Плямы на чалавечым сумленні больш прыкметныя, чым на Сонцы.
- Каб выскачыць замуж, іншыя жанчыны гатовы выскачыць з сукенкі.
- Той, хто купаецца ў шчасці, не тоне.
- Калі мужчына — твой патрон, жанчыне цяжка ад яго адстраляцца.
- У моры лісліваcці тонуць і добрыя плыўцы.
- Здольнасці не залежаць ад нашай кішэні, але кішэня залежыць ад нашых здольнасцей.
- Шлях да шчасця бывае такім доўгім, што за ўсё жыццё не дойдзеш.
- Каб быць заўсёды на вышыні, не трэба ніколі апускаць рукі.
- Трапіць пальцам у неба лягчэй, калі лунаеш у аблоках.



- Навошта званіць ва ўсе званы, калі можна абысціся званком па тэлефоне?

**Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*



**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

# Пра цешчу і бліны



Лепш не плакаць ды не ныць,
Не скуголіць вельмі,
Як да цешчы на бліны
Трапіш ты ў нядзелю.

Вось румяняцца яны,
Цешча скваркі смажыць...
А адхопіш без віны
Бярозавай кашы –

Што тады? Хутчэй бяжыш
З хаты без аглядкі
Ды пасля начамі сніш
Пульхныя аладкі.

...Цешча для мяне – радня,
Дабрыня, лагода.
Вось ужо амаль паўдня
Ем аладкі з мёдам.

*г. Жабінка.*

## Аматарам камп'ютараў

...І пасадзілі хакера за яго злачынствы ў вэб-камеру.

Не разумею: мадам – гэта яна, а мадэм – гэта ён?

Я з маніторам маніторынгам заняўся.

Аз, букі... Ноўтбукі.

Да з'яўлення ў людзей мабільнай сувязі іх мова была бяссувязнай.

Тэлеграма – гэта прабабуля дамабільнай эсэмэскі.

Дыскета – гэта тая, што любіла хадзіць на дыскатэкі?

Да чаго дайшла эмансіпацыя! Нават у кожным камп'ютары закладзены жаночы пачатак – мацярынская плата...

**Заўважыў Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*



Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.






# Сам сабе ўрач. Або вораг?

Фельетон

Пенсіянерка Ніна Пятроўна зайшла ў аптэку, наблізілася да акенца і далікатна кашлянула.

– Добры дзень, што вам падказаць? – Алеся Паўлавец, вопытны, дасведчаны фармацэўт, скончыла размаўляць з новым супрацоўнікам Глебам Навумовічам і павярнулася да жанчыны.

– Я шукаю эліксір «Шматтраўе».

– На жаль, такога няма. Вы куплялі гэты прэпарат у нас у аптэцы?

– Не, даведалася пра яго ў газеце «Знахар» і заказвала праз інтэрнэт. Але зараз сайт не адкрываецца, а апошняя бутэлечка скончылася, – паскардзілася наведвальніца. – Вось, паглядзіце рэкламу.

Алеся і Глеб з цікавасцю пачалі разглядаць лістоўку, прысвечаную лекам расійскай фірмы ТАА «ФлораФарм». Хвалебныя водгукі на прадукцыю, якая дапамагала адразу і назаўсёды і ад дыябету, і ад праблем з суставамі, і ад павышанага ціску... Праўда, кропля сумлення ў аўтараў засталася: прапаноўваць цуда–медыкаменты хворым ракам або СНІДам яны пасароменіся. Аднак нажывацца на іншых працягвалі. Са здымкаў усміхаліся шчаслівыя людзі, часцей у гадах, якія дзяліліся гісторыямі цудоўнага вылечвання.

Фармацэўты пераглянуліся: усё зразумела. Глеб хутка пачаў шукаць на сайце Рэестра лекавых сродкаў Рэспублікі Беларусь назву эліксіру. І, вядома, не знайшоў.

Алеся звярнулася да пакупніцы:

– Гэтага прэпарату няма. І не павінна быць. Бо ён не зарэгістраваны ў нашай краіне: гэта значыць, незаконны і не тэсціраваўся ў РУП «Цэнтр экспертыз і выпрабаванняў у ахове здароўя». Таму можа быць нават небяспечным.

– Як гэта? – Ніна Пятроўна не столькі спужалася, колькі раззлавалася. – П'ю яго ўжо паўгода – і ўсё добра. І галава менш баліць, і сэрца не непакоіць.

– А ці паказвалі вы ўрачу інструкцыю да гэтага лякарства? – далучыўся да дыялогу Навумовіч, былы тэрапеўт.

– Навошта? Што можна пачуць новага ў паліклініцы? – абурылася жанчына. – Апошні раз доктар выпісаў мне процьму накіраванняў і сказаў, што рэцэпт дасць толькі пасля аналізаў. Так і ляжаць недзе дома на палічцы бескарысныя паперкі. Навошта яны, калі ёсць «Шматтраўе» – проста і зразумела!

– Ніколі не хацелі ўпэўніцца, што гэты эліксір – бясшкодны? – Паўлавец за гады працы прывыкла да розных наведвальнікаў, таму імкнулася заставацца заўсёды спакойнай. Але толькі знешне, бо чужыя неабачлівасць і глупства не на жарты хвалявалі і нярэдка нават раздражнялі.

– Ведаю я медыкаў! Толькі і чакаюць працэнт ад продажу лекаў, дамовіўшыся з такімі, як вы. Вось і выпісваюць рэцэпты на дарагія таблеткі. Здаровыя людзі ім не патрэбны! Грошай не прыносяць. Таму ўрачы і выступаюць супраць такіх добрых сродкаў з газеты «Знахар», – жанчына, нібы робат, аўтаматычна паўтарала чужыя словы.

– Каб жа добрых! – не вытрымаў Навумовіч. – Дрэнных і шкодных! Падобных газет ці лістовак вельмі шмат. Ці кідалі ў вашу паштовую скрыню «Целебник»? – у адказ на пытанне Глеба пенсіянерка кіўнула. – Там прадпрыемства «ФитоМаксТрейд» прапаноўвала купіць прэпараты і друкавала здымкі невядомых людзей з аптымістычнымі гісторыямі пазбаўлення ад хвароб. Але хто правяраў іх праўдзівасць? Між тым, зарэгістравалі тавар у Беларусі як ежу, але раілі ім лячыцца. Вось за такі падман Мінгарвыканкам і забараніў іх рэкламу як незаконную, – Навумовіч верыў, што размаўляць з чалавекам трэба на яго мове, таму, як і наведвальніца, агрэсіўна адстойваў сваю пазіцыю.

– Пашукаю эліксір у іншых аптэках ці на сайтах, – пераканаць Ніну Пятроўну было немагчыма.

– Ім наогул нельга гандляваць, – ізноў спакойна нагадала Алеся.

– У нашай краіне і лекі, і БАДы забаронена прадаваць праз інтэрнэт, – дадаў Глеб, калі ўпартая жанчына выходзіла з памяшкання.

Дзверы грукнулі.

Алеся ўздыхнула і прамовіла:

– Радуе, што лекавацца «Шматтраўем» яна ўжо дакладана не будзе. Але ж як лёгка знайсці іншыя сродкі для самалячэння! А дзе яно, там і шкода. Вунь Сусветная арганізацыя аховы здароўя такую «дапамогу»

Працяг на стар. 6.

Заканчэнне. Пачатак на стар. 5.

на пятае месца ставіць як прычыну смяротнасці. Вышэй за анкалогію і нават траўмы.

— А між тым у Расіі ў Дзяржаўнай думе прапанавалі забараніць тэлевізійную рэкламу лекаў. На адной канферэнцыі тэрапеўтаў я нават чуў, што ва ўсіх краінах Еўрапейскага Саюза нельга змяшчаць аб'явы пра продаж прэпаратаў без рэцэптаў, а ў Канадзе на радыё і тэлебачанні — медыкаментаў наогул.

— І правільна. Інакш людзі павыпісваюць сабе таблеткі, а потым пакутуюць. А пра новаўвядзенні чулі? — занепакоена пацікавілася Алеся.

— Пра дазвол пазначаць скідкі на лекі, БАДы і медыцынскае абсталяванне? Спадзяюся, што гэта норма так і застанецца ў праекце. Толькі ўявіце, як павялічыцца колькасць урачоў—самавучак, калі медыкаменты пачнуць набываць на акцыях! Тры ўпакоўкі эліксіру па цане адной... Кожная другая шкляначка мазі бясплатна... Распродаж склада... Але ж гэта не цукеркі па акцыі купляць! — абурыўся Глеб.

— Але ж ёсць і прыемная навіна. Па—ранейшаму нельга будзе прапаноўваць прызы і падарункі пакупнікам медыкаментаў і БАДаў...

У аптэку зайшлі новыя наведвальнікі — і размова скончылася. А праз два дні калегі пабачылі на парозе аптэкі знаёмую прыхільніцу цуду-эліксіру.

— Вырашылі вярнуцца ўжо з рэцэптам ад урача? — узрадаваўся Навумовіч.

— Нават не спадзявайцеся! Мне патрэбны толькі лейкапластыр і пракіс, — рэзка адказала пенсіянерка. — А для сэрца я знайшла выдатную БАД: суседка параіла. Калі закажу адразу дваццаць упаковак, то заплачу ў два разы менш. Толькі спяшацца трэба: колькасць лекаў абмежаваная.

Фармацэўты прамаўчалі. Заставалася чакаць змяненняў заканадаўства пра рэкламу. І спадзявацца, што пацыенты будуць лячыцца ва ўрачоў, а не праз лістоўкі ці інтэрнэт...



**Алена КЕДА.**













Алег ПАПОЎ х 4.

**Янусь МАЛЕЦ**




Для многіх сёння праца
Ў бялізне калупацца.
Вядома, не ў сваёй,
Ахвотней – у чужой.
Забраўшыся з нагамі,
Раскідваюць рукамі,
Капаюцца з імпэтам
І ў майках, і ў шкарпэтках.
А калі знойдуць плямку,
То языком, бы клямкай,
Мянцяць бесперастанку
Ад вечара да ранку.
Расказваюць пра гэта
Ў часопісах, газетах,
На сайтах інтэрнэту –
Плятуць усяму свету
З дабаўкаю маны
Паскудства несуны.
Пісарчукі-пісулі,
Паскуднікі-«чысцюлі»...

А вы пра іх ці чулі?




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




**Галіна БАБАРЫКА**




Ганна прыехала дадому з бальніцы. Ведама, як яно пасля аперацыі: ляжы на ложку, разглядай то сцены, то столь, нічога не рабі.... Карацей, патрэбна набірацца сіл. Жыве Ганна адна. Таму заўсёды чакае, каб каторая суседка зайшлася да яе, адведала. Пагаворыш – і, здаецца, лягчэй стане.

А вось і нехта тупае на ганку. Не, гэта не суседка. Гэта Ігнат, які звычайна прыходзіць папрасіць закусі. Ганніна хата непадалёк ад магазіна, мужчына часта зазірае з бутэлькай. А што? Выгадна: толькі на віно патраціцца, гаспадыня нешта яму паставіць на стол. П'е сам, Ганне нават не прапануе. Сваё дабро, шкада некаму наліваць... За гэта зрэдку дапаможа што зрабіць па гаспадарцы.

Але сёння Ігнат без бутэлькі. Жанчына ўзрадавалася: хоць хтосьці прыйшоў спытаць у яе пра здароўе, паспачуваць. Ганна пачала расказваць пра аперацыю, пра тое, што, думала, памрэ там, у бальніцы. Паскардзілася, маўляў, і цяпер кепска сябе адчувае, хаця б яшчэ пажыць. Толькі нядаўна шэсць дзясяткаў стукнула...

Ігнат слухаў няўважліва. Але калі Ганна загаварыла пра магчымы канец, мужчына адразу ажывіўся, хвіліну пакумекаў ды выдаў:

– Ты, Ганна, не хвалюйся. Лепш пазыч мне грошай на бутэльку. А я, як ты памрэш, я́му бясплатна выкапаю і грошай з цябе не вазьму.

Ад такой заявы кабету разабраў смех. Але было і крыўдна. Гаспадыня не вытрымала:

– Ідзі адсюль! Капач знайшоўся... Не пазычу.

Злосны Ігнат выйшаў з хаты.

А Ганна падумала: «Яшчэ чаго – паміраць! Я́му ён мне капае, ласку робіць. Буду жыць. Мне ўжо неяк і не ляжыцца, рукі работы просяць».

Кабета жвава ўстала з ложка, паглядзелася ў люстэрка, што вісела побач на сцяне. Старанна прыгладзіла валасы і паклыпала на кухню...

*Столінскі раён,*
*в. Мачуль.*

Віншуем!



# Віталю ДУДАРЭНКУ – 55!

*Віталь ДУДАРЭНКА – вядомы беларускі мастак, кніжны ілюстратар, графік. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, Беларускую акадэмію мастацтваў.*

*Стварыў ілюстрацыі больш чым да двухсот кніг. Выканаў шмат малюнкаў для разнастайных часопісаў. Удзельнік і дыпламант рэспубліканскіх выстаў кніжнай ілюстрацыі, міжнародных выстаў-конкурсаў кніжных ілюстратараў у розных краінах свету.*

*У 2014 годзе ўзнагароджаны медалём Васіля Віткі за ілюстрацыі ў дзіцячым часопісе «Вясёлка».*

*У паўзах паміж самым любімым заняткам – афармленнем кніг – Віталь Васільевіч з задавальненнем паспявае маляваць карыкатуры для «Вожыка» і іншых гумарыстычных выданняў.*

*Рэдакцыя і рэдкалегія часопіса «Вожык» шчыра віншуюць таленавітага творцу з 55-годдзем і жадаюць, каб жыццё адзначала яго творчыя ды жыццёвыя дасягненні на 10 (5+5)!*

*Прапануем чытачам міні-інтэрв'ю в Віталем Дударэнкам (па старонках перыядычных выданняў).*

**— Віталь Васільевіч, калі вы захацелі стаць кніжным ілюстратарам?**

– Калі верыць бацькам, то з дзіцячага садка! Ужо там я бясконца маляваў нейкія гісторыі пра індзейцаў, рыцараў... Свядомае і беспаваротнае жаданне стаць кніжным ілюстратарам з'явілася, безумоўна, падчас вучобы у Беларускай акадэміі мастацтваў. Там мне пашчасціла вучыцца на адным курсе з вельмі таленавітымі маладымі людзьмі, якія потым сталі мэтрамі беларускай графікі. Менавіта ў студэнцкія гады, літаральна з першага курса, мы пачалі маляваць свае першыя ілюстрацыі да кніг, літаральна ўсім курсам афармлялі дзіцячы часопіс «Кважды-Ква»...

**— Можа, былі і іншыя альтэрнатывы?**

– Падчас вучобы ў школе я актыўна займаўся спортам. Стаў чэмпіёнам горада Мінска па грэблі на каноэ ў юнацкай катэгорыі. Кожнае лета мы выпраўляліся на зборы па ўсіх рэках Беларусі. Адсюль у мяне – бязмежная любоў да роднай прыроды... Але траўма пляча вызначыла мой выбар у бок мастацтва.

**— Чым захапляецеся ў вольны час?**

– Такога часу амаль не бывае. Але калі здараецца яго знайсці, то імкнуся падарожнічаць са сваёй любімай сям'ёй. У захапленні ад Вены і казачнай, надзвычайнай Аўстрыі... Падабаецца адкрываць для сябе новыя гарады, краіны.

**— Які твор вам хацелася б праілюстраваць?**

– Міфы Кафкі і казкі Гофмана. Але я заўсёды адкрыты для любых цікавых праектаў. Упэўнены, што мае лепшыя ілюстрацыі да кніг яшчэ наперадзе...





Андрэй СІДАРЭЙКА






*Усе мы ведаем традыцыйныя святы. У студзені адзначаем Новы год і Каляды. У лютым віншуем мужчын з Днём абаронцаў Айчыны, а 8 Сакавіка падымаем фужэры за дам. Жартуем 1 красавіка, а роўна праз месяц з рыдлёўкамі, віламі і іншымі прыладамі адзначаем на агародах Дзень працы...*

*Ёсць яшчэ і прафесійныя святы. Як не адзначыць, напрыклад, Дзень работнікаў землеўпарадкавальнай і картографа-геадэзічнай службы, ці Дзень кааперацыі, ці Дзень будаўніка?*

*А таксама існуюць і іншыя, арыгінальныя святы, прыдуманыя звычайнымі людзьмі, якія штодня шчыруюць на месцы. З некаторымі з такіх дат я буду рады вас пазнаёміць. Маю надзею: вясёлыя гісторыі, што адбыліся з героямі ў гэтыя дні, уздымуць чытацкі настрой і пазбавяць ад суму.*

## Апошняя нядзеля студзеня — Міжнародны дзень без інтэрнэту.

**Афіцыйна**

*Міжнародны дзень без інтэрнэту адзначаецца ў апошнюю нядзелю студзеня. У 2001 годзе свята «запусцілі» інтэрнэт-карыстальнікі, каб людзі выйшлі нарэшце з кіберпрасторы ў рэальнасць.*

## Ці ёсць жыццё без інтэрнэту?



*Гумарэска*

— Алё, Коля? Так, гэта я! Чаму мяне няма ў Viber? Сёння ж апошняя нядзеля студзеня — Міжнародны дзень без інтэрнэту! Таму я адключаны ад сусветнай павуціны. Што? Там у мяне сотня паведамленняў ад сяброў, і ўсе цікавяцца адным: калі я з'яўлюся ў нашай віртуальнай гульні? Ніколі. Навошта, калі, аказваецца, рэальны свет існуе! Як сябе адчуваю? Выдатна. Я ж ніякіх паведамленняў не бачыў і не чытаў. Прабач, ідзе паралельны выклік...

— Вова? Так, гэта я. Прывітанне. Кажу адразу: на e-mail не заглядваў, пісьмаў не бачыў. Чаму? Таму што сёння Міжнародны дзень без інтэрнэту. Як жыву? Цудоўна! Раней не было электронных скрынь і нічога, усе чакалі паштальёна. Калі ў цябе нешта тэрміновае — адпраўляй паштовага голуба. Я сур'ёзна. Горад у нас невялікі, даляціць хутка. Пакуль, не магу больш размаўляць...

— Вітаю, Саша. Сёння ў «Аднакласніках» мяне не чакай. Тое ж перадай і Каці. Чаму? Ну, не магу я. Разумееш, адзначаю Міжнародны дзень без інтэрнэту. Дзе я пра яго даведаўся? У інтэрнэце. Можаш сам загугліць, калі правароніў свята такога маштабу! І што адбылося ў нашых аднакласнікаў, пакуль мяне не было? Нічога. Вось бачыш, я нічога не прапусціў. Затое атрымліваю асалоду ад прыроды і марознага надвор'я. Прабач, нехта тэлефануе...



— Алё, Міша? Добры дзень. Так, гэта я. Куды іду? На пошту. На мабільны тэлефон грошы пакласці, камунальныя паслугі аплаціць. Па інтэрнэце не магу. Сёння Міжнародны дзень без інтэрнэту! Што? Ці працуе пошта ў нядзелю? Вядома. Так, я таксама там сто гадоў не быў. Усе плацяжы раблю праз інтэрнэт. Але сёння асаблівы дзень. Такое магчыма? Уяві сабе! Я без яго ўжо чатыры гадзіны. Дзівак? Ну, дзякуй, за добрае слова...

— Дзіма, прывітанне. Дзе я? На вуліцы. Чаму не сяджу дома ў сусветнай павуціне? Дык сёння Міжнародны дзень без інтэрнэту. Вось шпацырую па вуліцы, бачу на тварах людзей сапраўдныя ўсмешкі, а не смайлікі. Дарэчы, яны лепшыя за камп'ютарныя. Не хлушу. Выходзь на вуліцу — сам пераканаешся. Няма часу? Але, але...

— Слухаю, Алег. Я цяпер у бібліятэцы, нядаўна ў музеі быў. З глузду з'ехаў? Не. Гэта я так адзначаю Міжнародны дзень без інтэрнэту. А яшчэ збіраюся зайсці ў «АртБар» і намаляваць карціну. У мяне даўно душа цягнулася да мастацтва. Аказваецца, жыць без інтэрнэту можна, ды яшчэ як!..

Ух, здаецца, пагаварыў з усімі! Вось бы яшчэ Міжнародны дзень без мабільнай сувязі зрабілі. Зусім добра было б...

*Працяг рубрыкі на стар. 10.*



**Між іншым**

*У студзені вы маглі адзначыць і іншыя арыгінальныя святы. Напрыклад, 3 студзеня шануецца дзень нараджэння саломінкі для актэйляў, 11 — Міжнародны дзень слова «дзякуй», а 17 студзеня можна прабачыць сябе за тое, што не змог выканаць навагодніх абяцанні. Незвычайных свят у першым месяцы новага года багата. Як кажуць, інтэрнэт вам у дапамогу!*

*Шаноўныя чытачы! Каб вы маглі падрыхтавацца да святаў загадзя і ніводнага не прапусціць, мы будзем друкаваць святочныя гумарэскі напярэдадні наступнага месяца (лютаўскі выпуск — у студзені, сакавіцкі — у лютым і г. д.)*

## 22 лютага — Дзень прагулкі з сабакам.

**Афіцыйна**

*Дзень прагулкі з сабакам — свята для тых, хто выгульвае сваіх гадаванцаў на прыродзе.*

Заканчэнне рубрыкі. Пачатак на стар. 9.




*Гумарэска*

На мабільны патэлефанавалі. Мішка сказаў, што чакае мяне ў піўбары. Я хутка апрануўся, надзеў павадок на ашыйнік Дружку.

— Спяшаемся на прагулку! — гукнуў я жонцы, і мы пабеглі.

...Дружок з'явіўся ў нашым жыцці два месяцы таму. Сябры падарылі на Новы год.

«Выдатны падарунак!» — без іроніі не скажаш. Гэта ж столькі клопату — і карміць, і выгульваць, і мыць... А я і жонка, дарэчы, яшчэ і дамаседы...

Дружок не даў нам сумаваць з першага дня. Пасля таго, як ён зрабіў лужыну ў калідоры, мы пабеглі ў заакраму па ўсё неабходнае, а вечарам, калі пачаў скуголіць, — на вуліцу, гуляць.

Было сцюдзёна. І тут мне патэлефанаў Мішка. Прапанаваў схадзіць у піўбар. Я адышоў крыху воддаль і прашаптаў, што не магу: разам з Машай выгульваем Дружка.

«Дык і што? — здзівіўся Мішка. — Адпраўляй Машу дахаты, а сам бяры Дружка і прыходзь. Ты вып'еш куфаль піва, а верны сябар пачакае цябе на вуліцы, падыхае свежым паветрам».

Я паслухаў яго — і не пашкадаваў: усё прайшло выдатна.

Наступным вечарам я сказаў Машы, што магу і сам пагуляць з Дружком. Жонка з радасцю пагадзілася. Мы ўдосталь набегаліся, а затым я сустрэўся з Мішкам... Словам, вярнуліся дадому абодва задаволеныя.

Так і пайшло. Збіраюся ў краму па прадукты — бяру з сабой Дружка. Трэба з сябрамі сустрэцца — і тут ён прыходзіць на дапамогу. Цяпер наважыўся рабіць раніцай прабежкі. Думаю, Дружок з задавальненнем складзе мне кампанію.

Спачатку жонка з цікаўнасцю назірала за пераменамі ў маім жыцці. А нядаўна заявіла, што хоча вечарам пагуляць з Дружком. Вярнулася дадому толькі праз тры гадзіны. Сказала, што знаёміла сябра з горадам.

Раніцай я заўважыў у шафе новую кофтачку. Пытацца, дзе і калі жонка паспела яе набыць, не стаў.

У той вечар з Дружком гуляў я. Наступнай раніцай Маша папярэдзіла, што выгульваць нанач сабачку будзе яна...



Што ні кажы, а са з'яўленнем у кватэры сабакі нашае сямейнае жыццё кардынальна змянілася. І ў лепшы бок. Таму ўсім, у каго яшчэ няма вернага чацвераногага сябра, раю яго хутчэй знайсці. Паверце, сумаваць не давядзецца!

**Між іншым**

*У лютым вы можаце адзначыць і іншыя святы. Напрыклад, 1 лютага святкуюць дзень жуйкі, 2 — дзень тонкіх блінцоў. 18 лютага ўсіх чакае дзень батарэйкі, а 26 — дзень раскажы казку. Ёсць і іншыя нагоды для добрага настрою: гартайце каляндар «нетрадыцыйных» святаў і ўсміхайцеся!*




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.




## ПАЛАДЗІЛІ

Куды, сябры, падзелася
Прывабнасць маладосці?
Глядзіш – ужо прыгрэлася
Няпрошаная госця.

Яна завецца старасцю,
Падкрадваецца ціха.
З зайздроснаю упартасцю
Змяняе нас пакрыху.

Усе ёй падуладныя:
Вучоныя, міністры,
І прыгажуні ладныя,
І модныя артысты.

Аднойчы ты здзіўляешся:
Ужо прыйшла, няйначай?
Няўжо не памыляешся,
Сябе ў люстэрку бачыш?

Мы з госцяй не таргуемся,
Сядзім і п'ём гарбату.
З усмешкаю рыхтуемся
Да юбілейнай даты.

**Ірына САСНА,**
*Жлобінскі раён,*
*в. Пірэвічы.*






**Нэла ЛОСЬ**

## Рублік замест Еўрыка

Унукі падарылі бабулі на юбілей дарогога пародзістага коціка. Дзеля жарту назвалі яго Еўрыкам.

Хоць той малы «арыстакрат» у жменю змяшчаўся, характар меў фанабэрысты, хвосцік задзіраў высока, на гаспадыню шыпеў і фыркаў. Жанчына спрабавала паддобрыцца да кацяняці: смачна карміла, мякка слала... Усё дарма! Тады бабуля раззлавалася: «Калі так, будзеш у мяне не Еўрыкам, а Рублікам!»

Пасля перайменавання коціка стала не пазнаць! Глядзіць на гаспадыню вялікімі прыгожымі вачанятамі, лашчыцца, ласкава муркае...

«Гэта таму, што нашым стаў», – радуецца бабуля.



## Ні з чым...



Лета было вельмі гарачае. Ажно сажалка за агародам перасохла. Качкам і паплёскацца няма дзе. Гаспадыня вынесла ў двор два вядры вады. Не паспела спіну разагнуць, як адна з качак спрытна ўскочыла на вёдры і растапырылася на іх: хвост – у адным, галава – у другім. Астатнім і напіцца няма як.

Кабета сагнала дубцом нахабніцу з вёдраў і прагнала прэч. Астатнія ж качкі напіліся вады і палеглі ў цянёк адпачыць.

Ці не так і ў людзей: нахабнікі рана ці позна застаюцца ні з чым?

*Пастаўскі раён,*
*г. п. Лынтупы.*






Да мяне прыйшоў Змітрок –
Шчыры, верны дружа.
Жонцы ж ён – як скула ў бок,
Бо абрыдзеў дужа.

Закусь хоць і дастае,
Кідае маланкі:
«Кожны знае на сяле:
Сябар твой – для п'янкі!»

Толькі як жа мне не піць?
Ёсць таму прычына:
Жонцы можна дагадзіць,
Цешчы – немагчыма!

Для папрокаў у яе
Ёсць заўжды рэзервы.
Завядзецца – вытрапле
Мне дарэшты нервы.

– Ты чаму, скажы, зяцёк,
Мала зарабляеш?
І без справы што сядзіш,
Марна час губляеш?

Не прысесці адпачыць
І не прытуліцца.
Дзе ж пры гэтакім жыцці
Мне, ды не напіцца?

На малодку не зірні –
Тут жа рассакрэціць!
Да суседкі я ні-ні:
Цешча ўсё прыкмеціць.

Тут і праца не ідзе,
Жонка не кіруе.
А як выпіў – па бядзе!
Зноў жыццё віруе.

Так што смела заяўлю:
Як пра нашу хату –
Проста ўсё: у тым, што п'ю,
Цешча вінавата!

**Людміла ТРЭЦЦЯКОВА,**
*г. Мінск.*

# Вожык




**Студзень**

| Пн. | Аўт. | Ср. | Чц. | Пт. | Сб. | Ндз. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

**Люты**

| Пн. | Аўт. | Ср. | Чц. | Пт. | Сб. | Ндз. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | |

**Сакавік**

| Пн. | Аўт. | Ср. | Чц. | Пт. | Сб. | Ндз. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

**Красавік**

| Пн. | Аўт. | Ср. | Чц. | Пт. | Сб. | Ндз. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |

**Май**

| Пн. | Аўт. | Ср. | Чц. | Пт. | Сб. | Ндз. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |

**Чэрвень**

| Пн. | Аўт. | Ср. | Чц. | Пт. | Сб. | Ндз. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | | | | | |

**Ліпень**

| Пн. | Аўт. | Ср. | Чц. | Пт. | Сб. | Ндз. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

**Жнівень**

| Пн. | Аўт. | Ср. | Чц. | Пт. | Сб. | Ндз. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| 31 | | | | | | |

**Верасень**

| Пн. | Аўт. | Ср. | Чц. | Пт. | Сб. | Ндз. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | | | | |

**Кастрычнік**

| Пн. | Аўт. | Ср. | Чц. | Пт. | Сб. | Ндз. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | |

**Лістапад**

| Пн. | Аўт. | Ср. | Чц. | Пт. | Сб. | Ндз. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | | | | | | |

**Снежань**

| Пн. | Аўт. | Ср. | Чц. | Пт. | Сб. | Ндз. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

– Мышка, мышка,
дзе была?
– Была ў пана караля.
– Што рабіла?
– Лыжкі мыла.
– А што далі?
– Кусок сала.
– Дзе паклала?
– Пад лаўкаю.
– Чым накрыла?
– Халяўкаю...

*Будзьце працавітымі ды сытымі!*
*Пільнымі ды вясёлымі!*
*«Вожык» дапаможа!*






*Шарж Анатоля ВОЛКАВА, 1969 г.*

# Сатыра не з-пад пугі

*Творчы лёс Якава ГЕРЦОВІЧА (1910–1976) быў даволі пакручасты: пакаштаваў пісьменнік і журналісцкага, і літаратарскага хлеба. Аўтар шматлікіх літаратурна-крытычных артыкулаў умеў прыкмячаць адметнае не толькі ў творах калег па цэху, але і ў паўсядзённым жыцці. Здольнасць перадаваць гэтыя назіранні сродкамі сатыры і гумару выразна праявілася падчас працы Якава Бенцыянавіча ў «Вожыку», на старонках якога друкаваліся яго фельетоны на надзённыя тэмы. Часопісу ён аддаў 17 гадоў, выдаў у Бібліятэцы «Вожыка» кнігу гумарыстычных і сатырычных твораў «Не пугай адзінай». Алегарычны змест многіх замалёвак добра зразумелы нам і сёння, у чым няцяжка пераканацца.*

**Якаў ГЕРЦОВІЧ**

## Не па зубах арэшак

Партабак не мог супакоіцца. Столькі гадоў ён верай і праўдай служыў Івану Іванавічу, дагаджаў яму, напамінаў, што пара закурыць, зацягнуцца дымком. Ці ж вінаваты Партабак, што дактары забаранілі Івану Іванавічу курыць? Калі чалавеку так ужо хочацца скарачаць штат асабістых рэчаў, то няхай звальняе Зубную шчотку, у якой няма такіх вялікіх заслуг.

Знайшліся, як заўжды ў такіх выпадках, добрыя дарадцы. Яны параілі Партабаку напісаць скаргу, падаць у суд: аднавілі ж у ранейшых правах Расчоску, хоць у Івана Іванавіча ні аднаго воласа на галаве не засталося.

Не прайшло і месяца, як Партабак быў адноўлены ў ранейшых правах з выплатай кампенсацыі за вымушаны прагул. Іван Іванавіч і хацеў бы выкінуць непатрэбную рэч, ды баіцца, што зацягаюць па судах. Арэшак аказаўся не па зубах.



*«Не пугай адзінай», Мн., 1969 г.*




Алег ГУЦОЛ.

Шарж Вадзіма ШВЯЦОВА, 1972 г.



# Вожыкавец са стажам

*Гумар і драматургія – дзве творчыя дзялянкі, якім прысвяціў прафесійнае жыццё Валянцін ЗУБ (1915–1980). Аўтар пісаў п'есы, якія ставіліся на сцэне многіх тэатраў, і заўсёды сябраваў з вясёлым словам. А працы ў «профільным» выданні – часопісе «Вожык» – Валянцін Андрэевіч аддаў ні многа ні мала – амаль трыццаць гадоў. Гумарыст са стажам выдаў у Бібліятэцы «Вожыка» кнігі аднаактовак і сцэнак «Нарада ў ЗАГСе» (1972), «Не спяшайцеся караць» (1975). Друкаваўся і пад псеўданімам Апанас Стрэмка. Выйшлі з друку яго кнігі гумару «Сапернікі» (1958) і «Чорны кот» (1973).*

**Валянцін ЗУБ**




– Ну вось, глядзі, глядзі, панесла ўжо... – штурхнуў мяне пад бок Мікіта Крышталік.

– Хто панёс, што панёс?.. – не адрываючы вачэй ад шашачнай дошкі, прамармытаў я.

– Таня Малініна фатаграфіі панесла.

І хоць цяпер быў мой ход, але, пачуўшы гэтае імя, я кінуў усё і пабег да акна.

Мы ўбачылі, як да заводскай Дошкі гонару падышла невысокая тоненькая дзяўчына з пачкам фотакартак у руцэ. Некаторыя яна здымала з Дошкі зусім, іншыя апускала крыху ніжэй або перастаўляла на самы верх.

Але было на гэтай Дошцы яшчэ адно месца ў самым цэнтры: тут Таня змяшчала фотакарткі тых, хто быў «героем дня». Трэба сказаць, што на гэтае цэнтральнае месца цяжэй за ўсё было трапіць.

На гэты раз «героямі дня», здаецца, былі мы з Мікітам: у нас лепшыя паказчыкі – 320 працэнтаў нормы, і заняць цэнтральнае месца на Дошцы гонару належала нам. Вось чаму мы так моцна прыціскаліся да халоднай шыбы.

Але была і іншая прычына, можна сказаць, самая галоўная. Справа ў тым, што мы абодва – я і Мікіта – былі па вушы закаханыя ў гэтую невысокую тоненькую дзяўчыну. А яна... адзін танец танцавала са мною, а другі – з Мікітам. Калі мы частавалі яе цукеркамі, дык яна колькі цукерак возьме ў Мікіты, столькі ж возьме і ў мяне. Праводзіць сябе Таня таксама дазваляла толькі абодвум разам. Мы звычайна ішлі так: яна пасярэдзіне, а мы па баках. Яна, трымаючы нас пад рукі, бясконца шчабятала, нахіляючыся то да аднаго, то да другога.

І вось з'явілася магчымасць высветліць, каго ж яна больш калі не кахае, дык хоць паважае. Ёй трэба было, нарэшце, зрабіць выбар. На Дошцы гонару было толькі адно цэнтральнае месца, а мы знарок так падагналі, што ў нас з Мікітам быў аднолькавы працэнт выканання плана. Па іншых паказчыках – па якасці, чыстаце рабочага месца – мы таксама ішлі нароўні. Дык каго ж яна змесціць у цэнтры? Паміж сабой мы вырашылі: чыю фатаграфію яна змесціць у цэнтры, таго яна, мусіць, і больш кахае.

А яна, размеркаваўшы ўсе фота вакол цэнтральнага месца, дастала яшчэ адно, значна большае па памерах, і... прымацавала ў самым цэнтры.

Здалёк мы не маглі ўгледзець, чыю фатаграфію яна паставіла ў цэнтры, Мікітаву ці маю. І таму, як толькі Таня адышлася, мы што было духу пабеглі да Дошкі гонару.

Прыбеглі і... здзіўленыя, спыніліся. З цэнтра на нас глядзеў мужны, прыгожы твар Петруся Бранавіцкага. Пад фота быў надпіс – 320 працэнтаў нормы! А брак у яго на адну сотую працэнта быў меншы, чым у нас.

Мы глянулі адзін на аднаго і засмяяліся.

...Увечары мы зноў сядзелі ўтраіх, Таня, Мікіта і я, у тэатры. У Тані ў кожнай руцэ было па порцыі марожанага. Гэта адну купіў Мікіта, другую – я.



*«Чорны кот», Мн., 1973 г.*

Мікалай ЛЕНКАВЕЦ



# Палата "люкс" з халадзільнікам

*Жыццёвае*

Дзед Ігнат за свае восемдзесят з гакам гадоў ні разу не ляжаў у бальніцы. Здаралася, канешне, што хварэў, ды неяк абыходзілася. Ці ў лазні добра выпарыцца бярозавым венікам, ці чарачку моцнага напою з перцам каўтне (канешне, пад строгім наглядам сваёй Ганулі), ці чайку з мёдам пап'е... Словам, жыў дзед — не тужыў.

А вось калі хто з вясковых мужчын трапляў у райбальніцу, то потым надта ж хваліўся: і ўколы робяць, і таблеткі, не шкадуючы, жменямі даюць, і кормяць-пояць (шкада, праўда, што не віном, як некаторыя марылі), і халадзільнік каля кожнай палаты... Атрымлівалася, што лепшага для чалавека, як паляжаць у якой лячэбніцы, і не трэба! Увогуле ж, у бальніцы нават не палаты «люкс» з халадзільнікамі галоўнае, а — калектыў. Ты ж, Ігнат, маўляў, усё адзін ды адзін то ў агародзе, то на падворку корпаешся, а то і ў калгас цягнешся... Паляжаў бы, хоць адпачыў...

— Ат, — адмахваўся дзед Ігнат, — мне і дома хораша. А што працы шмат, дык жа гэта добра: жыву! А вы ляжыце, калі так вам хочацца...

Не разумеў стары, як гэта можна хварэць так, каб у бальніцу? Клопату ж на зямлі, па гаспадарцы — хоць адбаўляй! А яны — вылежваюцца...

Ды сталася так, што не прамінуў бальніцы і ён, Ігнат: мясцовая «ферчалка» настаяла, паслухаўшы плечы і грудзі старога праз нейкія трубкі. Можа, і не лёг бы дзед у той лазарэт, ды тая нешта такое ўклала ў вушы ягонай жонцы, што Ганулля ледзь не пад канвоем, узброіўшыся качаргой, праводзіла Ігната да машыны «хуткай дапамогі»...

І вось ляжыць стары ў бальніцы, у палаце на чацвёра мужчын. Што і казаць: сапраўды рай!.. Укол — калі ласка! Таблетак — хай не жменя, дык паўжмені дакладна. І ежу прынясуць, хоць не такую, як дома, наварыстую, але каб і хацеў з голаду памерці — не памрэш. Ды яшчэ і халадзільнікі каля палат на калідоры. Хворыя пасля вячэры толькі дзверцамі ляпаюць: хто сала адтуль цягне, хто мяса, хто яйкі...

Ігнат тым часам ляжыць ды думае: схадзіць яму таксама да той скрыні ці не?.. Сусед па ложку, нейкі весялун (казаў, з рабочых), бачачы, што старога ніхто не праведвае, наярваючы каўбасу, падбухторвае: «Табе, мо, Ігнат Бацькавіч, што прынесці? Ляжыш жа... Ці сам сходзіш?»

Маўчаў стары, трываў, але аднойчы так яму захацелася сальца. Узняўся з ложка (падлячылі, дык і сіла з'явілася), падышоў да халадзільніка, адчыніў, а там... Чаго там толькі не было! Хіба што віна і гарэлкі... То хай! Затое ежы — цэлы мех!

Адкроіў ён скрылёк нейкага сальца, паклаў у рот: э, не, нясмачнае! Вядома, не са свайго свінчаці, не свайго пасолу: казённае — яно і ёсць казённае. Вось табе і халадзільнік, вось табе і рай!

Не паспеў Ігнат дажаваць кавалачак, як хтосьці яго за руку — цап! Ды:

— Ты што, стары, чужое бярэш? Ты купляў? Табе прынеслі? Маё гэта!..

— Як тваё? — сумеўся дзядок і быццам усох ад сораму. — Хіба не грамадскае? Не бальнічнае? Халадзільнік жа, мне ў вёсцы казалі...

— Бачыце, яму казалі... — не адпускаў Ігната нейкі тоўсценькі мужчына гадоў пяцідзесяці. — Казалі, што камунізм хутка будзе, а пакуль...

Ён зарагатаў гучна, з пагардай паглядаючы на старога.

Тым часам на калідоры з важкім кошыкам, пыхкаючы, з'явілася Ігнатава Ганулля.

— Ану, не чапай майго чалавека! — накінулася яна на мужчыну.

— Дык ён сала маё...

На крык і гоман з Ігнатавай палаты выскачылі весялун-рабацяга ды двое хлопцаў гадоў па трыццаць.

— Гэй, ты, бацьку не чапай! — у адзін голас закрычалі яны. — Сала яму шкада! Нябось, украў?

— Ды я... — зніякавеў тоўсценькі. — Купіў! Між іншым, я...

— Ды ведаем цябе, — грэбліва скрывіўся весялун-рабацяга. — Кажуць, на базе працуеш.

— Не працую! Ты што са мной раўняешся? Начальнік базы я... — пахваліўся тоўсценькі.

— Вось яно што...

— Хлопчыкі, дзетачкі! — апамяталася бабка Ганулля. — Што ж вы так? Ды я вунь колькі таго сала ўсім прынесла — цэлы кош! І каўбасы, і масла, і яек... Толькі ешце, — і працягнула тоўсценькаму важкі скрутак. — Вазьмі, чалавек, пакаштуй, і дахаты табе дам...

— Ды я, цётачка, пажартаваў з тваім дзядзькам! Хай есць, — залыпаў вачыма тоўсценькі. — У бальніцы без жартаў сумна.

А пасаромлены стары даў сабе зарок: яшчэ столькі пражыву, як пражыў, а ў бальніцу — ні кроку! Нават пад Ганульчынай качаргой. Не, не трэба мне ні калектыў, ні ўколы, ні той халадзільнік! Хварэць лепш аднаму...

*г. Ганцавічы.*



Алег КАРПОВІЧ.

# ПЯРО НАРЫПЕЛА

«Пасля школы ўладкаваўся на работу ў леспрамгас, дзе адпрацаваў да выхаду на пенсію. Потым ажаніўся. З жонкай выгадавалі сына і дачку».

*(З аўтабіяграфіі).*

**«У аналізе існуючай сітуацыі тут у асноўным праглядваецца тыпічная тэндэнцыя такой залежнасці».**

«Мікалай нарадзіўся ў сялянскай сям'і, густа населенай дзецьмі».

*(З газет).*

**«Жыць на вёсцы няпроста. Не ўсе хочуць тут жыць. Трэба ж карову накарміць, і падаіць, і свінню таксама».**

«У выпадку няўстойлівага снежнага покрыва або яго адсутнасці спаборніцтвы па лыжным арыентаванні будуць праводзіцца бегам».

**«На ўсе ўказаныя мной недахопы яны патуралі».**

«Мы клапоцімся аб дэмаграфічнай сітуацыі ў раёне. А таму як калектыў у нас малады, многія нараджаюць, асабліва жанчыны».

*(З выступленняў).*

**Запісаў Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*

## ВЯСЁЛЫ СЛОЎНІК

КЛІЧНІК – аратар.
ПАДГАЛОСАК – падхалім.
ПАДЧАРЫЦА – закаханая.
ПАЛІРАВАЦЬ – пісаць вершы.
ПАРАСОН – адпачынак.
ПІКНІК – маўчун.
ВЫПАДАК – страта.



**Заўважыла Ірына САСНА,**
*Жлобінскі раён,*
*в. Пірэвічы.*






## Выбіў

***Мастоўскі раён.*** Арыгінальны сродак папярэдзіць захапленне «цяжкімі» наркотыкамі знайшоў мясцовы жыхар. Дзядзька памятаў, што клін клінам выбіваюць, і таму перадаваў пляменніку... «лёгкую» марыхуану, якую сам вырошчваў.

Цікавіцца забароненымі рэчывамі той і сапраўды больш не захоча. Міліцыянеры затрымалі яго і яшчэ аднаго хлопца разам з атрутным зеллем. Сваякі і юнак рызыкуюць трапіць за краты. Выбіў дык выбіў...



## Дрэнная карма

***Паставы.*** Амаль год пенсіянерка выпраўляла дрэнную карму знаёмай пастаўчанкі ў абмен на грошы, прадукты, гаспадарчыя дробязі і нават мабільны тэлефон. Апошні, дарэчы, «экстрасэнс» падарыла сваёй дачцэ.

Але хто варожыць, той галаву паложыць. Даверлівая жанчына нарэшце западозрыла ашуканства, калі чараўніца не здолела прысушыць той мужчыну, што спадабаўся. У адносінах махляркі ўзбуджана крымінальная справа. Карма сапраўды аказалася дрэннай — у гора-экстрасэнса.



## Гэта быў не Мікалай II...

***Маладзечна.*** Вядомы пісьменнік Міхаіл Булгакаў у рамане «Майстар і Маргарыта» раіў ніколі не размаўляць з невядомымі. Дапоўнім ад сябе: і не набываць у іх антыкварыят.

Так, адна гараджанка купіла ў вулічнага гандляра за сто шэсцьдзясят рублёў сем старадаўніх манет з выявамі людзей, падобных да Мікалая II, Кацярыны II і Елізаветы I. Спачатку яны каштавалі амаль у два разы даражэй, але жанчына здолела выгадна патаргавацца. Праўда, пасля здзелкі засумнявалася ў сапраўднасці рарытэтаў і звярнулася ў ламбард да спецыялістаў, якія пацвердзілі падробку.

Праводзіцца праверка. Падманшчык, як і кніжны Воланд, знік...




## Сланы, елкі і... турма

***Магілёў.*** А вы ведалі, што сланы ходзяць на вадапой, не задумваючыся, тым жа шляхам, што і іх далёкія продкі?

Верагодна, генетычная памяць ёсць і ў людзей. Па гэтай прычыне два магіляўчаніны ўзгадалі, што на карчомных шыльдах раней малявалі галіны ялін. І таму за адну ноч яны ўкралі тры канадскія елкі з аднаго гарадского двара, якія пасля прадалі, і патрацілі грошы на выпіўку. А раніцой выкапалі яшчэ тры туі паблізу другога дома...

Лепш бы хаўруснікі ўзгадалі пра тое, што злодзеяў каралі ва ўсе часы. Вырашаецца пытанне пра ўзбуджэнне крымінальнай справы.




## Ніткі падвялі

***Мінск.*** Мясцовая жыхарка неяк не заўважала, што прайшло паўгода, як у яе знікла паліто. Пакуль не запрасіла да сябе ў госці сяброўку. Тая прыйшла, апрануўшы «згубленую» рэч. Мінчанка адразу выклікала міліцыю, аднак прыяцелька настойліва сцвярджала, што нічога не крала. Толькі хлусня была шыта белымі, а дакладней, чырвонымі ніткамі на падкладцы быццам бы новага адзення — адметным знакам ад былой уладальніцы.

Тэма рукадзелля на гэтым для несумленнай жанчыны не скончыцца. Чырвонай ніткай праходзіць пытанне, якое пакаранне яе чакае. Тым больш, што раней махлярка ўжо прыцягвалася да крымінальнай адказнасці.




*Па інфармацыі прэс-цэнтра Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.*

# Ці быў багет?

Падалося аднойчы кабеце,
Што вагі не хапае ў багеце.
Хутка выпечка ў роце прапала,
Хоць і смачна было, але – мала!
Уміг з'явілася скарга ў газеце,
Што вагі не хапае ў багеце.
Правяраючых склікалі сход
І паслалі на хлебазавод.
Толькі вось павароты сюжэта:
Не пяклі тут ніколі багетаў!
Пекар, ведама, не вінаваты,
Можа ехаць спакойна дахаты.
Піша новую скаргу кабета
(Не даюць па начах спаць багеты!),
Просіць высветліць ўсё да канца,
Пакараць ў рэшце рэшт... прадаўца.
Час прайшоў – засталося сакрэтам:
Ці купляла кабета багеты?



**Настасся МІШКАВЕЦ,**
*г. Іванава.*




Алег ГУЦОЛ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.




- Хоць вачам сорамна, затое душа радуецца.
- Без мяне мяне ажанілі.
- І ў марац адмарозіш палец.
- Добрахвочы глядзіць скупому ў вочы.
- Як вадой размылася.
- На святога Абрама.
- Кандзібоберам пайшоў.
- Запэцкаўся, як Магося.
- Да пятага мая кажух не здымай і з печы не злазь.

**Запісаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




***Пачытайце дзецям!***

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## Зайка-чэмпіён

Шпарка зайка едзе,
Мчыцца на каньках –
Абагнаў мядзведзя,
Абагнаў ваўка.
На каток штодзённа
Ён хадзіў, не спаў
І таму сягоння
Чэмпіёнам стаў.



**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## Босы верабей

Верабейчык плача:
– Чыкі-чык-чырыкі!
Цяжкая задача:
Дзе ўзяць чаравікі?
У мароз вялікі
Мерзнуць неахвота...
Дайце чаравікі,
Яшчэ лепей – боты!

*г. Барысаў.*







## Швачка

Шыла маці-шымпанзэ
Футра сыну Кларку,
Каб не мёрз зімою Кларк
Ў нашым заапарку.

**Мікалай ГЛЕБ,**
*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*




У краме па аддзеле гародніны і садавіны ходзіць малады мужчына з дзяўчынкай гадоў шасці. Такі дзіцячы ўзрост характарызуецца адсутнасцю двух пярэдніх зубоў на верхняй сківіцы.

Дзяўчынка азіраецца і просіць:

— Тата, купі мне што-небудзь!

— Чаго табе хочацца?

— Морквы, — упэўнена кажа яна.

— А як ты яе грызці будзеш? — пасміхаецца бацька.

Дзяўчынка кранае языком дзясны і задуменна выдае:

—До-о-оўга...




* * *

Маці насварылася за нейкую правіну на трохгадовага сына. Ён сеў на падлогу, дастаў паперу, алоўкі і пакрыўджана паабяцаў:

— Тады я цябе тоўстай намалюю!

* * *

Лёву шэсць гадоў. Бацька ідзе з ім да неўрапатолага. Сын капрызіць: яму надакучылі дактары.

— Там нічога табе не зробяць, толькі пагаворыш з доктарам, — супакойвае яго бацька.

— І ўсё?

— Ну, можа, яшчэ малаточкам пастукае, але не балюча.

Заходзяць у кабінет. Доктар бярэ картку, гартае яе і кажа малому:

— Добры дзень, Лёва!

— Добры дзень! Ну, дзе ваша сякера?!



* * *

У аўтобусе маці размаўляе з малым сынам.

— Мама, а чаму людзі вырастаюць?

— Ну, так жыццё ўладкавана.

— Але я не хачу станавіцца дарослым!

— Чаму? Гэта ж вельмі весела, — спрабуе пераканаць яго жанчына.

— Па тату не відаць, — задуменна заўважае малы.

**Запісала Наталля КУЛЬГАВАЯ,**
*г. Мінск.*

***Правер сваю ўдачу!***

**Выберы, які падарунак ты атрымаеш.**






Анастасія СКАРКО.

**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ**

## ЗАГАДКІ



Компас у руцэ, на плячах рукзак,
То ён на рацэ, то ён у гарах.
З песняю ідзе, хоць і не артыст,
У дарозе дзень правядзе ...

*(Турыст.)*



* * *

Падуладныя яму
Скалы і даліны.
Любіць вельмі пакараць
Горныя вяршыні.
Пройдзе бурную раку,
Шнур і кірка ў рукзаку.

*(Альпініст.)*

* * *

Фігуры ён перастаўляе,
Шмат розных камбінацый знае.
Ды ўсё-такі не фігурыст,
А ўсім вядомы ...



*(Шахматыст.)*

* * *



Працуе ён не на зямлі,
А ў моры водзіць караблі.
Касцюм прыгожы, стройны стан —
Кіруе суднам ...

*(Капітан.)*

* * *

Што пасеяць, як араць —
Трэба у яго спытаць.
Добра ўсё расце кругом —
Пастараўся ...

*(Аграном.)*



*г. Клецк.*

Генадзь АЎЛАСЕНКА




*Нездарма ў народзе кажуць: «Усяк бывае: жук рыкае, а карова лятае». Багата дзівацтваў дае нам жыццё. Некаторыя з іх так і просяцца на старонкі «Вожыка». Я не ўтрымаўся, сабраў такія недарэчнасці ў тэматычныя міні-падборкі ды прапаную вашай увазе, шаноўныя чытачы. У кожны нумар – новыя несусвеціцы. Дзівіцеся, захапляйцеся, усміхайцеся!*

## ПРА АМЕРЫКАНСКІЯ АБСУРДНЫЯ ЗАКОНЫ, ЯКІЯ НЕ ТАКІЯ І НЕДАРЭЧНЫЯ

*У ЗША, акрамя агульных для ўсёй краіны законаў, ёсць тысячы іншых, якія дзейнічаюць на ўзроўні штата, графства альбо нават муніцыпалітэта. Некаторыя з іх здаюцца бязглуздымі. Між тым, для з'яўлення падобных нарматыўных актаў у мясцовых улад былі свае прычыны, часта – даволі важкія.*

### У горадзе Лос-Анджэлес забаронена... аблізваць жаб

«Дурната несусветная! – напэўна, падумаеце вы. – Ды які ж нармальны чалавек будзе гэта рабіць?»

Не скажыце! Скура некаторых мясцовых жаб утрымлівае даволі моцныя галюцынагены. І калі мясцовыя наркаманы пра гэта даведаліся, то пачалі актыўна лавіць земнаводных. Паліцыя нічога не магла з гэтым зрабіць. Таму і з'явіўся дадзены закон.



### У горадзе Мобіл жанчынам забаронена насіць абутак на абцасах-шпільках

А ўсё з-за таго, што неяк адна жанчына на такіх абцасах наступіла на рашотку вадазліва, упала і сур'ёзна пашкодзіла нагу. А затым абвінаваціла ў гэтым гарадскія ўлады, падала на іх у суд і выйграла справу, атрымаўшы даволі значную грашовую кампенсацыю.

Муніцыпалітэт горада, каб не атрымліваць у будучым падобных іскаў, забараніў жанчынам насіць абутак на шпільках. І вадазліўныя рашоткі мяняць не спатрэбілася.

### У штаце Заходняя Вірджынія вучням забаронена наведваць школу, калі ад іх пахне... цыбуляй

Тут расце пэўны від дзікай цыбулі, якая мае надзвычай моцны пах. Ён адчуваецца нават праз некалькі дзён пасля ўжывання гэтай расліны ў ежу. Толькі ўявіце, што адбываецца адразу: астатнім вучням і настаўнікам хоць з класа ўцякай! Без адпаведнага закона было не абысціся.



### У штаце Вашынгтон людзі, якія прыехалі сюды з намерам здзейсніць злачынства, павінны спачатку патэлефанаваць у паліцыю і паведаміць аб сваіх намерах

На першы погляд, вельмі смешны закон, але з іншага боку – даволі мудры. Быў прыняты, каб зменшыць колькасць злачынстваў у штаце. Жыхарам іншых штатаў (і іншых краін, дарэчы), якія здзейснілі ў штаце Вашынгтон злачынства без папярэджання і былі затрыманы, дадаткова інкрымінуецца яшчэ і парушэнне такога закона. А гэта сур'ёзна павялічвае тэрмін зняволення. Ёсць розніца, як кажуць.

### У штатах Нью-Джэрсі і Арагон людзі не могуць самастойна заліваць бензін у бензабак, ім абавязкова павінен дапамагаць работнік АЗС

Закон быў прыняты вельмі даўно – у той час, калі аўтамабілі толькі пачыналі сваё пераможнае шэсце па амерыканскіх дарогах. Многія вадзіцелі ў той час нават не падазравалі, як хутка ўспыхвае бензін, і запраўлялі аўтамабілі нават з цыгарэтай у зубах.

Сёння, вядома, ніхто так рабіць не будзе (хіба што, наўмысна). Закон можна было б адмяніць, але яго пакінулі – відаць, на ўспамін. І з мэтай бяспекі: час мяняецца, а людзі – не...



# ПАБЯДНЕЛА НАША ЗЯМЛЯ...

Сумная вестка прыйшла з гарадскога пасёлка Акцябрскі — там 4 снежня пасля працяглай хваробы перастала біцца сэрца шчырага беларуса, таленавітага журналіста і пісьменніка Віктара Аляксандравіча Лоўгача. Адразу ж прыгадалася яго шчырая, светлая ўсмешка пры кожнай нашай сустрэчы... Патрымаўшыся за рукі, мы дзяліліся не толькі сваімі творчымі планамі, але і наогул жыццёвымі перыпетыямі. Мне было цікава пачуць пра яго сямейнікаў, а яму ж, і я гэта адчуваў, пра маіх.

Мо яшчэ і таму, што гадоў сорак назад, калі я вырашыў вярнуцца з Ашхабада на Радзіму, то напісаў Віктару Аляксандравічу шчырае пісьмо. Выказаў жаданне і намер працаваць у раённай газеце, якую ён узначальваў. Адказ паступіў нечакана хутка: прыязджай. З жыллём, праўда, адразу не вызначымся, аднак і пад голым небам жыць не будзеш. І так магло стацца, што мы і працавалі б у адной газеце, аднак мяне «перахапіў» Гомель. Тут я хутка абжыўся, трывала пусціў карані, але пра клопат Віктара Аляксандравіча помню заўсёды.

Бываючы ў камандзіроўках у Акцябрскім, мы кожны раз, вядома ж, сустракаліся. Я прапаноўваў свае творы для «раёнкі», а потым ён дасылаў мне газеты з публікацыямі. Ну, а калі Віктар Лоўгач быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, мы пачалі бачыцца часцей. Спрыялі гэтаму мерапрыемствы, што праводзіліся не толькі ў нашым абласным цэнтры, але і ў іншых мясцінах. У тым ліку бачыліся некалькі разоў і на Усебеларускім свяце гумару ў Аўцюках. Віктар Аляксандравіч быў там не госцем — ён ахвотна радаваў прысутных сваімі дасціплым гумарам.

Пагадзіцеся, па-рознаму ўваходзіць у тваё жыццё той ці іншы чалавек. Калі я жыў у дзеда Якава ў вёсцы Гута, дзе, дарэчы, і нарадзіўся, то выпісваў некалькі перыядычных выданняў. У нашай маленькай вёсцы не было ні бібліятэкі, ні клуба, а я ўжо быў актыўным селькорам, таму меў магчымасць аформіць падпіску на газеты, у якіх друкаваўся. Вось у той час і пазнаёміўся з Віктарам Лоўгачам — «Чырвоная змена» раз-пораз друкавала паляўнічыя былі, падпісаныя гэтым прозвішчам. Чытаючы іх, я і сам марыў прайсціся некалі на лесе са стрэльбай. Гэта былі юнацкія, вядома ж, мары. Аднак аўтар мне запомніўся. Тым больш, што пад ягоным прозвішчам стаяла месца жыхарства — г. п. Чачэрск. Дык мы ж амаль землякі! Ад мяне з Рагачоўшчыны да Чачэрска — рукой падаць. Суседзі.

Пазней я даведаўся, што Віктар Аляксандравіч працаваў там намеснікам рэдактара газеты. А калі яму прапанавалі ўзначаліць раённую газету, ён і думаць не думаў: гэта ж тое, што і трэба паляўнічаму — дзе яшчэ столькі лясоў на Гомельшчыне, як не там!

Тое, што ён заядлы паляўнічы, грыбнік, адразу стане вядома кожнаму, хто возьме ў рукі любую з ягоных кніг. Так-так: героі іх часцей за ўсё людзі, якія трапляюць у самыя розныя сітуацыі, часцяком — у недарэчныя, блукаючы па лесе са стрэльбай альбо і на «ціхім» паляванні, збіраючы грыбы. Не абмінаў Віктар Аляксандравіч сваёй увагай і аматараў рыбнай лоўлі. У яго было не толькі трапнае пяро гумарыста і сатырыка, але меліся і вуды. Таму ўсе творы Віктара Лоўгача праўдзівыя, не высмактаныя, як кажуць, з пальца.

Помню, як радаваўся ён сваёй першай кнізе «Таблеткі для сну», якая выйшла ў Бібліятэцы «Вожыка»! Даслаў яе і мне з дарчым надпісам. Потым я атрымаў ад яго і наступныя асобныя выданні — зборнікі «Эліксір здароўя» і «Замовы ад спакус». Як вы і здагадаліся па назвах, пад вокладкай таксама быў гумар.

Прыйшла аднойчы на мой хатні адрас і кніга, якую Віктар Лоўгач напісаў пра жонку. Яна да балючага рана пакінула гэты свет, а без яе ён адчуваў сябе надзвычай самотна, горка... Такую кнігу мог напісаць толькі чалавек, які быў вельмі закаханы ў сваю Раісу. Я паспачуў яму. Хоць на гэта, прызнаюся, не адразу хапіла духу...

І вось пайшоў у іншы свет і сам Віктар Аляксандравіч. Схіляю галаву перад ягонай светлай памяццю. А заадно нагадаю, што пісьменнік нарадзіўся 15 жніўня 1936 года ў вёсцы Хісцецкі Бор Жыткавіцкага раёна. Больш за 50 гадоў працаваў у сродках масавай інфармацыі Гомельшчыны.

Выдаў пяць кніг гумару. Надрукаваў дакументальную аповесць «Пірат, узяць!» Сатырычныя і гумарыстычныя творы друкаваліся ў раённых, абласной і рэспубліканскіх газетах, часопісах і шматлікіх зборніках, альманахах. Асабліва плённа супрацоўнічаў з часопісам «Вожык».

Пабяднела наша зямля на аднаго светлага чалавека...

**Васіль ТКАЧОЎ.**

Рэдакцыя і рэдкалегія часопіса сатыры і гумару «Вожык» глыбока смуткуюць з нагоды смерці вядомага журналіста і пісьменніка, адметнага гумарыста, шматгадовага аўтара і шчырага прыхільніка выдання Віктара Аляксандравіча ЛОЎГАЧА і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

# Анекдоты

Едзе фін на машыне. Раптам бачыць — на дарозе ляжыць іржавы цвік. Спыняецца, кладзе яго ў багажнік, заўважае: «Потым спатрэбіцца-а», — і коціцца далей.

Праз тры гады едзе па той жа дарозе, затрымліваецца, дастае з багажніка той жа іржавы цвік і акуратна кладзе на дарогу на тое ж месца. Зачыняе багажнік і кажа: «Не спатрэбіўся-я...»

**Прачытаў Аляксандр ЗОТАЎ,**
*г. Мінск.*

**Мужчыны як кнігі: адны — разумныя, другія — цікавыя, а ў трэціх — грошы ляжаць.**

* * *

— Заўсёды абураўся на жонку: куды яна грошы дзяе? Потым прыкінуў... Цяпер думаю: а дзе яна іх бярэ?

* * *

**— Доктар, я вам так удзячны, што не перадаць словамі!**

**— Перадайце грашыма…**

* * *

— Ваш банк дае крэдыты пад чэснае слова?

— Без праблем.

— А калі я не стрымаю слова?

— Калі паўстанеце перад Усявышнім, вам будзе сорамна.

— Калі гэта яшчэ будзе!

— Калі пятага не вернеце, то шостага і паўстанеце…

**Даслала Тамара СЯНКЕВІЧ,**
*г. Навагрудак.*

16+

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 1 (1576), 2020 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.



Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Алена КЕДА *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*, Анастасія СКАРКО *(мастацкі аддзел)*.

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.
Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефон галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 244-92-37, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны, 748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ
Камп'ютарная вёрстка: Святлана ТАРГОНСКАЯ
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ
Падпісана да друку 13.01.2020. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,50. Тыраж 530 экз. Заказ .
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.





Алег ГУЦОЛ.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



# ЗОРКІ СУСВЕТНАЙ КАРЫКАТУРЫ



Валерыу КУРТУ нарадзіўся ў 1956 годзе ў гарадку Унгены на мяжы Малдовы і Румыніі. Скончыў Кішынёўскае мастацкае вучылішча, Маскоўскі інстытут кінематаграфіі (аддзяленне мультыплікацыі), Вышэйшыя рэжысёрскія курсы. Працаваў на кінастудыі «Саюзмультфільм» (Масква), кінастудыі «Малдовафільм» (Кішынёў). Як сцэнарыст і рэжысёр стварыў сем мультфільмаў.

У той жа час яго карыкатуры публікуюцца ў вядучых айчынных і замежных гумарыстычных часопісах і газетах. Член FECO (Федэрацыя карыкатурыстаў Еўропы), Саюза мастакоў СССР і Малдовы, Саюза журналістаў Малдовы.

У 1994 годзе вядомы мастак пераязджае з сям'ёй у Берлін. Тут ён працуе разам з жонкай, таксама мастачкай, у сваёй галерэі «Kurtukunst», а таксама супрацоўнічае з многімі нямецкімі газетамі і часопісамі.

На працягу ўсяго творчага жыцця прымае ўдзел у міжнародных конкурсах і фестывалях карыкатуры. Мае больш чым сто прызоў (з іх 20 — першых), медалёў і дыпломаў. З 2010 года арганізуе і праводзіць міжнародны конкурс карыкатуры ў Берліне.

З поспехам прайшоў шэраг яго персанальных выстаў у Малдове, Германіі, Люксембургу, Расіі, ЗША, Румыніі, Польшчы. Работы знаходзяцца ў розных замежных музеях.












Алег ГУЦОЛ.




**Студзень хаты студзіць, рана гаспадароў будзіць.**

А калі прачнуўся ды выцепліў у печы, час і на пошту завітаць, падпісацца на «Вожык»!






Пётр КОЗІЧ.



## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844,**

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ ЛЬГОТНЫ**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ВЕДАМАСНЫ ЛЬГОТНЫ**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**

Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта» (у тым ліку самастойна аформіць інтэрнэт-падпіску — на сайце «Выдавецкага дома «Звязда» ў раздзеле «Падпіска» ёсць падрабязная інструкцыя).

Праз аддзяленні сувязі можна аформіць падпіску на абаненцкую скрыню, з дастаўкай да кватэры «з уручэннем з рук у рукі».

РУП «Белсаюздрук» ажыццяўляе прыём падпіскі ў кіёсках і «Да запатрабавання».

А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).

Таксама ў Вас ёсць магчымасць атрымаць свежы нумар напярэдадні выхаду папяровага варыянта. Для гэтага патрэбна аформіць падпіску на PDF-версію выдання (на сайце «Выдавецкага дома «Звязда» ў раздзеле «Падпіска» ёсць падрабязная інструкцыя). Даступна падпіска і на папярэднія нумары: у прыватнасці, архіў 2018 і 2019 гадоў.

### ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2020 ГОДА

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
**індэкс 74844**, цана 6 рублёў 18 капеек,
**індэкс 01380**, цана 5 рублёў 10 капеек,
**індэкс 748442**, цана 17 рублёў 74 капейкі,
**індэкс 01381**, цана 14 рублёў 29 капеек.




## Чытайце ў наступным нумары:




Ці можа цынік быць рамантычным?

Як езуіт, дамініканец і бернардзінец падзялілі на вячэру адно-адзінае яйка?

Куды варта адправіць ліпавага генерала?

Навошта спартсмены садзяцца ў... вялізныя гарбузы?

У якой жонкі самая кепская памяць на свеце?